*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 116 (1181)**

Серада, 27 чэрвеня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўночны, 3—8 м/с, пры навальніцах парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Гродне, Брэсце — +20...+22, Мінску, — +21...+23, Віцебску, Магілёве — +22...+24, Гомелі — +23...+25.

28-га па ўсходзе кароткачасовыя дажджы, навальніцы, 29-га пераважна без ападкаў. Вецер — няўстойлівы, 3—8 м/с, пры навальніцах парывы да 14. Тэмпература паветра 28-га ўначы — +9...+14, 29-га — +6...+11, удзень +21...+26.



**ПУЛЬС**

## Што будзе, як прагоняць Віка?

**Як паведамілі ў прэс-цэнтры Хартыі'97, да 20 чэрвеня глава Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску Ханс-Георг Вік мусіў быў пакінуць тэрыторыю Беларусі. Такі ультыматум быў выстаўлены некаторы час таму Аляксандрам Лукашэнкам у адрас АБСЕ. Аднак ад Віка была атрымана адмова. І вось ужо амаль тыдзень, як спадар Вік знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі ў няпэўным становішчы — ён працягвае працу ў чаканні прымусовай дэпартацыі.**

Глава КНГ АБСЕ ў канцы мінулага тыдня заявіў, што мае мандат, выдадзены старшынёй АБСЕ. і ў адпаведнасці з ім мае намер працягваць працаваць. Але ад прамога адказу Ханс-Георг Вік усё ж такі адышоў і не адказаў прама: быў ультыматум Лукашэнкі ці не.

Да чаго ж прывядзе магчымая дэпартацыя лідэра місіі АБСЕ ў Мінску? Відавочна, наступным крокам можа стаць адозва амбасадараў буйнейшых краін, а таксама ЗША з Беларусі. Ужо зараз Беларусь не песцяць, шчыра кажучы, замежныя інвестары. А пасля ад'езду амбасадараў яны пра існаванне нашай краіны наогул забудуць. Каму гэта выгадна? Не беларускаму народу — гэта абсалютна дакладна!

**Мікола БУСЕЛ.**

## Дзве беларускія дэлегацыі на сесіі ПАСЕ

**Дзве беларускія дэлегацыі — афіцыйная на чале з Уладзімірам Канаплёвым і прадстаўнікоў апазіцыі пад кіраўніцтвам Анатоля Лябедзькі — у статусе гасцей знаходзяцца ў Страсбургу, дзе з 25 па 29 чэрвеня праходзіць чарговая сесія Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ).**

Як і падчас папярэдніх падобных візітаў, беларускія парламентарыі ў Страсбургу маюць намер сустрэцца з кіраўнікамі гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі, а таксама з прадстаўнікамі розных камітэтаў і парламенцкіх фракцый ПАСЕ.

У рамках работы юрыдычнага камітэта пройдуць слуханні па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Акрамя парламентарыяў, туды запрошаны старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Таццяна Процька і прадстаўнік праваабарончай арганізацыі "Хельсінкі-21" Барыс Звозскаў.

## Прадстаўнікі беларускай апазіцыі выступілі ў Страсбургу

**Анатоль Лябедзька (кіраўнік дэлегацыі Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання) і Яраслаў Раманчук (сакратар дэлегацыі) атрымалі магчымасць выступіць на пасяджэннях дзвюх фракцый ПАСЕ — кансерватараў і лібералаў-рэфарматараў.**

Прадстаўнікі беларускай апазіцыі распавялі пра сваё бачанне палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Яны адзначылі, што на цяперашнім этапе прэзідэнцкай кампаніі іх асабліва хвалююць дзве праблемы. Па-першае, гэта фарміраванне выбарчых камісій, куды апазіцыя практычна не атрымала доступ, і, па-другое, мяркуемыя цяжкасці на этапе рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі.

Лябедзька і Раманчук перадалі ў Венецыянскую камісію — аўтарытэтную міжнародную юрыдычную арганізацыю — шэраг дакументаў, якія датычацца выбарчага права ў Беларусі. Яны папрасілі Венецыянскую камісію даць сваё заключэнне наконт таго, ці мае права Аляксандр Лукашэнка ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2001 года.

**Уладзімір ГЛОД.**

## Прапануюць прадоўжыць тэрмін перарэгістрацыі да 1 ліпеня 2003 года

**Беларуская канфедэрацыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў звярнулася ва ўрад рэспублікі з прапановай прадоўжыць тэрмін перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання. Яна павінна завяршыцца 1 ліпеня і, паводле ацэнак экспертаў БКПП, гэтую працэдуру не паспеюць прайсці да 50 працэнтаў прадпрыемстваў.**

Канфедэрацыя прапаноўвае прадоўжыць тэрмін перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання да 1 ліпеня 2003 года, як гэта зроблена для калгасаў і саўгасаў.

Асноўнымі праблемамі эксперты канфедэрацыі называюць забарону на рэгістрацыю юрыдычных асоб па хатніх адрасах, забарону рэгістрацыі некалькіх юрыдычных асоб па адным адрасе і тое, што выканкамы іншы раз патрабуюць дакументы, не прадугледжаныя ні Дэкрэтам № 22, ні дзеючым рэспубліканскім заканадаўствам, напрыклад, даведку аб тым, што пашпарт заснавальніка юрыдычнай асобы не фальшывы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Не ноги качать, а мозги развивать!

В своем очередном интервью один из претендентов в президенты Александр Лукашенко имел смелость предложить остальным соискателям мандата на высокий пост принять участие в кроссе и таким образом померяться с ним силами.

Реакция Леонида Георгиевича Синицына на предложение Лукашенко не заставила себя ждать:

*"Лукашенко говорит, якобы это поможет всем разобраться в мощи его здоровья и снять с него все подозрения в отсутствии оного. Но, помилуйте, речь в многочисленных публикациях СМИ шла совсем о другом здоровье... О том, которое измеряется не силой мускулов.*

*Президент должен быть силен не ногами, а головой!*

***В связи с чем я выхожу к Лукашенко со встречным предложением** — пусть с остальными претендентами он бегает, прыгает или на лыжах летом ходит, а со мной лучше прилюдно — на площади Независимости г.Минска — сыграет партию в шахматы. Пользы от такого соревнования будет намного больше. Настоящие президентские виды спорта — те, которые развивают умение мыслить, что для управления страной ой как важно..."*

Ответа Александра Лукашенко на инициативу Леонида Синицына пока не получено.

**Пресс-служба Леонида СИНИЦЫНА.**

**ГЛАС НАРОДА**

## ...А у меня зарплата – 32 тысячи рублей

Я живу в Ельске и работаю в столовой поваром, мне 29 лет, воспитываю двоих детей.

Во всех газетах читаю, что молодежные организации будут поддерживать на президентских выборах А.Лукашенко.

Как можно за такого президента голосовать? У меня зарплата — 32 тысячи рублей, и пускай мне объяснят, как можно за такую зарплату прожить. Что, опять будут обещать нам золотые горы? Надоело! Если кто не верит, что бывает такая зарплата, так есть объявление в ельской газете, что требуется на работу повар.

**Нина АВРАМЕНКО.**

г.Ельск.

**Паважаныя чытачы!**

**Наступны нумар "Народнай волі" вы атрымаеце ў пятніцу, 29 чэрвеня, таму што ў чацвер у нас — планавы нявыхад.**

**УТОЧНЯЕМ...**

# Лукашенко по ночам читает "Народную волю"?

**Александр Лукашенко:**

***"Почему Божелко хотели исчезнуть? Потому что на сорок два миллиона долларов уголовное дело ущерба стране расследуется. И мы вышли на конкретные вещи. За что был выдворен отсюда и Титенков, и Божелко. И надо было подвести политику, потому что отвечать же надо!.. Мы эту информацию получили — о том, что планируется такая акция. И очень четко за этим наблюдали. И когда они сделали вброс и поняли, что мы видим, где Божелко, вчера вдруг поздно ночью в одной из оппозиционных газет (вы читали эту статью, если не читали, то прочитайте) — интервью с женой через замочную скважину. Не знаю, было это интервью или нет, но через замочную скважину поговорили, что Божелко жив и здоров. А Божелко в Москве находится... Я думаю, журналистов проинформируют специалисты по этому вопросу. Тем более я попросил".***

*(Из интервью журналистам БТ.)*

Невнимательно Вы, Александр Григорьевич, видимо, "Народную волю" читаете... В публикации "Мой муж жив и здоров" черным по белому написано: *"Семья Божелко живет в одном из престижнейших домов Минска. Перед лестницей есть выход на балкон, из которого хорошо видна их лоджия. Жена Олега Александровича как раз смотрела в окно. Видимо, хотела убедиться, что мы ушли. А увидев, как мы свесились с балкона, все-таки решила выйти к нам.*

*Ждать пришлось минут двадцать.*

*Маргарита Божелко не выглядела встревоженной. Она заверила, что ее муж **"жив и здоров"**.*

На всякий случай специально для Вас, Александр Григорьевич, уточняем еще раз: с женой Божелко мы разговаривали не только через домофон.

Непонятно, на что Вы намекаете, говоря про ночь. Интервью у супруги Олега Александровича мы брали сразу после того, как в российских средствах массовой информации прошло сообщение об исчезновении экс-генпрокурора Беларуси. Это было в четверг днем.

Да и "Народная воля", как и все белорусские газеты, выходит не ночью, а рано утром.

А может быть, Вы этот материал ночью читали? Тогда совсем другое дело. Похвально, что глава государства по ночам самостоятельно читает независимую прессу... Интересно только, как она к Вам попадает — прямо из типографии?

А вот с Божелко действительно не все ясно. Вы утверждаете, что его выдворили из страны. А согласно скупым официальным сообщениям из прокуратуры, он сам отсюда уехал. Якобы к родственникам.

Вы пообещали, что журналистов проинформируют "по вопросу Божелко". Будем надеяться, что корреспондентов "Народной воли" на данную полит-информацию тоже соизволят пригласить. Читатели нашей газеты, как и всех остальных изданий, имеют право знать, что происходит в Беларуси с известными людьми и что думают об этом представители власти.

Кстати, 25 июня в газете "Вечерний Минск" со ссылкой на БелТА появилось сообщение: *"Информация о пропаже бывшего Генерального прокурора Беларуси Олега Божелко, появившаяся в некоторых СМИ, не подтвердилась. Как сообщили БелТА в Управлении информации и общественных связей МВД, никаких заявлений по факту исчезновения бывшего прокурора в органы внутренних дел не поступало. **По имеющейся информации, Олег Божелко никуда не исчезал и находится в Беларуси**"*. Кому же все-таки верить? Управлению информации и общественных связей МВД или А.Лукашенко? И кому выгодно, чтобы информация, полученная из уст разных государственных чиновников, была кардинально противоположной?

**Марина КОКТЫШ,**
**Мария ЭЙСМОНТ.**

# ЧАС ВЫБІРАЦЬ!

або

**ВОПРОС ДНЯ**

## Можно ли собирать подписи за кандидатов в президенты на рабочих местах?

*В редакцию "Народной воли" обратились читатели с вопросом, законны ли действия членов инициативной группы Александра Лукашенко, собирающих подписи для его регистрации кандидатом в президенты прямо на рабочих местах в нескольких медицинских учреждениях минского микрорайона Чижовка.*

*За разъяснениями по этому вопросу мы обратились к секретарю Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению референдумов Николаю Лозовику.*

**-- Николай Иванович, имеют ли право члены инициативных групп кандидатов в президенты собирать подписи за своего кандидата на территории предприятий и учреждений в рабочее время?**

— Избирательное законодательство Республики Беларусь не регламентирует, как должен проходить сбор подписей на предприятиях и учреждениях, но особый режим прохода на предприятия предполагает, что член инициативной группы, который собирает подписи, должен получить разрешение на проход на территорию у руководства, и, естественно, проводить сбор подписей во внерабочее время. Но если разрешение получено и член инициативной группы собирает подписи в рабочее время, то это не является нарушением избирательного законодательства. Здесь скорее всего можно вести речь о нарушении трудового законодательства. Подчеркну, что собирать подписи на предприятиях члены инициативных групп имеют право только после того, как получат на это разрешение у руководства.

**— Имеет ли право член инициативной группы потребовать у руководства конкретного предприятия, чтобы его пропустили на территорию для сбора подписей, например, в обеденный перерыв?**

— Избирательное законодательство не обязывает руководителей предприятий пропускать членов инициативных групп на свою территорию.

**Олег СНИТКО.**

## Не пазбаўляйце нашчадкаў выбару

Я не ўстрымаўся, каб не выказаць свой погляд. Ні адзін народ не звязвае сябе вечнымі саюзамі з суседзямі, не губляе сваёй мовы і пачуцця годнасці. Хто ведае, чаго захочуць нашы нашчадкі: знаходзіцца пад прымусовай рукой Масквы ці быць вольнымі ў выбары шляху свайго развіцця? Нашто сёння на векі вечныя пазбаўляць іх такога выбару?

У саюзе з Расіяй нас чакае вечная кабала, праўда, названая нібыта добраахвотным саюзам. А ўся гэтая слоўная гульня ў захаванне суверэнітэту з боку правых, левых і цэнтрыстаў нашай усходняй суседкі і беларускіх "інтэгратараў" — ёсць не што іншае, як выдумкі лукавага, у што, на жаль, шмат хто з нас верыць, хоць і молімся мы, успамінаючы Усявышняга:

"... и не введи нас во искушение, но избави нас от лукавого".

**І.ІЛЮКЕВІЧ.**
г.Слуцк.

**ШЧЫРА**

## Здыміце сваю кандыдатуру, Зянон Станіслававіч!

**Алесь СІЛІЧ**

Тыдні са два таму ў Цэнтрвыбаркаме я стаў сведкам рэгістрацыі ініцыятыўнай групы лідэра КХП БНФ Зянона Пазьняка. Падначаленыя Лідзіі Ярмошынай разыгралі сапраўдны спектакль, намагаючыся даказаць прысутным журналістам і палітыкам сваю прыхільнасць да ідэй дэмакратыі. Спачатку ў выступах членаў выбаркама прэваліравала думка — не рэгістраваць ініцыятыўную групу Пазьняка, паколькі апошні вось ужо больш за чатыры гады жыве за межамі Беларусі. Аднак потым з прамовай у абарону лідэра правых нечакана выступіў сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік. Прамова яго была такой палымянай, што, здавалася, Лазавік вось-вось усклікне: "Жыве Беларусь!" Не, канечне, не ўсклікнуў. Але групу Пазьняка, у рэшце рэшт, зарэгістравалі...

Той-сёй падумае: вось яна, дэмакратыя! Прыйшла на наш парог і гучна грукае моцным кулаком у дзверы! Калі ўжо пралукашэнкаўскі выбаркам фактычна ідзе на парушэнне заканадаўства і абараняе свайго заклятага ворага Зянона Пазьняка... Але разумны чалавек падумае ў такой сітуацыі: штосьці тут не так.

Усё становіцца ясна, калі спрагназаваць той факт, што Зянон Станіслававіч — частка выбарчага сцэнарыю, распрацаванага ў "Чырвоным доме".

Сутнасць магчымага сцэнарыю ўлад падаецца такой: зарэгістраваць як мага больш ініцыятыўных груп і стварыць багаты фон. А потым "вырубіць" найбольш моцных кандыдатаў, якімі на сённяшні дзень з'яўляюцца члены вядомай "пяцёркі" плюс двое-трое да іх далучыўшыхся. На багатым фоне такая "вырубка" будзе, безумоўна, менш прыкметнай. Вось і стараюцца прыдворныя "бухгалтары" і лічыльнікі разыграць фарс з дэмакратыяй і спадабацца свайму босу.

Лукашэнка добра разумее, што Пазьняк сёння — сапернік не надта моцны. Пазьняку ўжо наўрад ці сабраць тыя 12 працэнтаў галасоў, якія ён атрымаў на мінулых выбарах 1994 года. Хочам мы таго ці не, але зімоўскім і казіяткам (і трэба глядзець на рэчы рэальна) удалося-такі зрабіць з Пазьняка жупел, якім апалітычныя жанчыны (а такіх — большасць, на жаль) палохаюць сваіх дзяцей, а сяляне баяцца, як чорт ладана.

Не выключана, Лукашэнка зараз зробіць усё, каб Пазьняк не толькі сабраў неабходныя 100 тысяч подпісаў, але ж і прайшоў з ім, Лукашэнкам, у другі тур выбараў. Пара "Лукашэнка—Пазьняк", здаецца, настолькі прывабная для сённяшняга правіцеля, што лепшага яму і не прыдумаць. Глядзіце, маўляў, за званне прэзідэнта спрачаюцца дзеючы кіраўнік дзяржавы з лідэрам апазіцыі, яе сімвалам. Многія на Захадзе не разумеюць, што Пазьняк ужо даўно не лідэр апазіцыі, і перамагчы на выбарах ён наўрад ці здольны. У пары "Лукашэнка—Пазьняк" у другім туры перамагае адназначна першы. І дзеля гэтага не трэба нават праводзіць сацыялагічнае апытанне.

Рызыкую гэтым артыкулам выклікаць гнеў прыхільнікаў БНФ, усіх тых, хто паважае і шануе Зянона Станіслававіча. Я таксама яго шаную і паважаю. Але ж не хачу, каб паважаны, адданы Беларусі патрыёт рабіўся пешкай у чужых руках. Здыміце сваю кандыдатуру, Зянон Станіслававіч! Не дапусціце ўцягнуць сябе ў сцэнарый, у якім пераможца — не Вы! Таму што ў гэтым выпадку прайграем усе мы. Прайграе наша Беларусь.

**ВІНШУЕМ!**

## А. Лябедзьку – 40

Сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі (разам 3500 чалавек) сардэчна вітаюць свайго лідэра Анатоля Лябедзьку з нагоды 40-годдзя з дня нараджэння! Мы ганарымся тым, што працуем разам з адным з самых таленавітых і перспектыўных палітыкаў сучаснай Беларусі, мужным чалавекам, добрым спартсменам.

Мы зычым табе, Анатоль, моцнага духу і моцнага здароўя, упэўненасці, поспехаў у справах!

# ЗАЯВЛЕНИЕ

## Совета Белорусского профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения

Совет профсоюза выражает категорический протест против действий руководства республики в отношении промышленных предприятий. Нынешняя власть демонстрирует свою разрушительную сущность, подчиняя даже промышленную политику одной цели — убрать любое инакомыслие в среде руководителей промышленности, будь то политический протест или критическое отношение к проводимому социально-экономическому курсу.

С одной целью избавиться от руководителя ОАО "БАТЭ" Н.Д.Бусела — депутата Верховного Совета 13-го созыва, который открыто выступал против неразумной финансовой и экономической политики нынешнего руководства, по приказу Администрации республики, этому, хорошо работающему предприятию, имеющему устойчивый рынок сбыта своей продукции, создали "особые условия" работы, закрыв в банках Беларуси расчетные счета. Шантажом, угрозами и другими подобными методами из арсенала административного произвола пытались воздействовать на это акционерное общество, где практически все акции принадлежат работникам предприятия. Созданная вокруг предприятия обстановка привела к тому, что из хорошо работающего предприятия с самой высокой заработной платой в 1997—1998 годах БАТЭ в 2000—2001 годах стал несостоятельным должником с постоянными задержками в выплате зарплаты, которая резко снизилась.

Аналогичное отношение к руководителям предприятий, не согласным с существующим положением дел, можно увидеть на примере судьбы других руководителей. Показателен пример расправы власти с бывшим директором Белорусского металлургического завода Ю.В.Феоктистовым, который был арестован и на длительное время заключен в тюрьму без всяких на то оснований, а затем и освобожден от работы. Или взять пренебрежительное отношение руководства республики к мнению многотысячного коллектива Белорусского шинного комбината при замене директора.

Руководители предприятий стали заложниками нынешнего политического режима, и, по высказываниям некоторых сподвижников Лукашенко, они будут либо работать и вести себя так, как им скажет власть, либо сидеть в тюрьме. Не исключено, что их может ожидать и другая участь — оказаться среди пропавших граждан. Правда, есть примеры, когда профсоюз и рабочие выступают сплоченно, принципиально, отстаивая свою позицию при назначении руководителя и тогда Администрация республики вынуждена отступать, считаясь с требованием коллектива. Так случилось в производственном объединении "Беларуськалий".

Последние события вокруг одного из крупнейших предприятий республики — Минского тракторного завода подтверждают смысл проводимой политики в отношении руководителей предприятий: или полное повиновение, или ты неугоден власти, несмотря на то, что ты успешно организуешь работу предприятия. Минский тракторный завод долгое время был и сейчас остается одним из небольшого числа предприятий, которые образуют основу валютных поступлений в государственный бюджет. Но неугодным для нынешней власти оказался генеральный директор ПО "МТЗ" М.В.Леонов, который неоднократно выступал с предложением изменения экономической, финансовой и промышленной политики, создания условий для эффективной работы предприятий и промышленности в целом. Эти предложения расходятся с мнением руководства республики, и к таким руководителям прикрепляется, как мы видим, ярлык "неблагонадежных", а для "неблагонадежных" у власти есть свои методы и способы перевоспитания. Клевета, подлог и обливание грязью в государственных СМИ коллектива предприятия, создание общественного мнения о руководителе как о преступнике с соответствующими выводами. То, что подобные отношения вредят государству и предприятию, подрывают авторитет белорусской промышленности, для нынешней власти совершенно безразлично.

Совет профсоюза считает подобные действия недопустимыми, несовместимыми с Конституцией и законами Республики Беларусь.

Совет профсоюза поддерживает протест профсоюзной организации МТЗ против травли коллектива и его руководителя, организованной властью, и предлагает объединить усилия как организаций работодателей, так и профсоюзов для защиты руководителей предприятий любой формы собственности от произвола властей.

Вместе мы сможем поставить заслон беззаконию и административному произволу, открыть путь для эффективной работы предприятий, а значит, повышения зарплаты и благосостояния людей труда!

**БЕСПРЕДЕЛ**

## Военные заняли круговую оборону

Двадцать первого июня инициативные группы Валерия Левоневского и Михаила Чигиря обратились в воинские части, расположенные в г.Гродно, с просьбой о встрече с личным составом частей. Цель встречи — предоставление возможности служащим срочной службы реализовать свое законное право по выдвижению кандидата в президенты Республики Беларусь. Но не тут-то было. Оказывается, командирам частей "спущена" директива — инициативным группам запретить встречи с военнослужащими без специального разрешения Министерства обороны Республики Беларусь. Как получить это разрешение — не прописано. Дозвониться до Министерства обороны по телефону дежурного невозможно. Все другие телефоны держатся в строжайшей тайне. Даже руководство гродненского штаба армии (Лис Святослав Николаевич) не знает или делает вид, что не знает, телефонов своих руководителей из Министерства обороны.

Круг замкнулся. Нынешние белорусские власти так напуганы, что установили порядки для солдат хуже, чем в тюрьме, т.к. вопросы встреч осужденных решает начальник тюрьмы (колонии) самостоятельно, а командирам воинских частей запрещено самостоятельно решать вопрос о создании условий солдатам срочной службы в реализации их избирательных прав.

Может, после выхода этого информационного сообщения военные дадут пояснения: чем вызвано такое массовое нарушение избирательных прав военнослужащих срочной службы и опубликуют контактные телефоны тех лиц, кто дает разрешение на встречу с избирателями в погонах.

**Валерий ЛЕВОНЕВСКИЙ,**
**претендент в кандидаты в президенты Республики Беларусь.**

